Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

12 - 18 снежня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№50 (138)

АПОШНІ ў 1997 годзе ЎКЛАДЫШ ДЛЯ МОЛАДЗІ

3 і 6 старонка

## Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"



*Лена: Маладзечна, 15 год, рост 164, вага 54; ёй падабаюцца мульцікі пра спорт, кветкі, наогул любіць мяккую цацку; лічыць, што вечары лепей праводзіць у вясёлай кампаніі, не любіць плёткі.*

*Фота Аляксея ФЯЦІСАВА.*

Конкурс "Фотамадэль рэгіёна" падыходзіць да заканчэння. Пераможцу рэдакцыя "РГ" вызначыць у наваглоднім нумары. Чытачы па-ранейшым аддаюць перавагу **Каці** (№ 42) і **Свеце** (№ 46), імкліва да іх набліжалася **Таня** (№49), пакуль не стаў відавочны заказны характар некаторых тэлефонных званкоў. Нагадаем, што разам з чытацкімі сімпатыямі іхняя абранніца чакае ад іх і прыз.

## Новыя тэхналогіі

# Мы вернем заказчыку грошы,

### калі ён пакажа неналежнае выкананне работ нашымі супрацоўнікамі

*МАЛАДЗЕЧНА. Тут адкрываецца прадстаўніцтва латвійскай кампаніі "FRAM", якая займаецца выкананнем рамонтных і іншых работ па навейшых сусветных тэхналогіях. "РГ" змяшчае інтэрв'ю з дырэктарам новага прадстаўніцтва Віктарам Уласенкам.*

Матэрыял чытайце на 2-й стар.

## Дарогі, якія мы выбіраем

# Ці адпусцім Краўчанку ў Японію?

*МАЛАДЗЕЧНА. Па інфармацыі, што прамільгнула ў СМІ, наш зямляк Пётр КРАЎЧАНКА у самым хуткім часе можа быць адпраўлены паслом у Токіо. Аднак Пётр Кузьміч яшчэ не прасіў дазволу на выезд у маладзечанцаў, якія ў свой час абралі вядомага дзеяча апазіцыі дэпутатам Вярхоўнага Савета, і легітымнасць якога сам палітык, здаецца, не аспрэчвае. Толькі зыходзячы з гэтых меркаванняў мы задалі пытанне "Ці адпусцім Краўчанку ў Японію" маладзечанцам.*

**Л. П., банкаўскі работнік:** Успомніце Чыгіра, ніхто пра яго благога слова не сказаў, бо ён заўсёды займаўся справай. Тут жа ёсць нешта нежывое. Але, магчыма, гэта не самы горшы варыянт, калі будзе працаваць на Беларусь, а не на адміністрацыю. Няхай едзе.

**Мікола Капыловіч, пісьменнік:** Не адпусцім. Хай выконвае свае абяццані. Падманулу нас сваёй палітычнай эквілібрыстыкай. Я ж галасаваў за яго. Краўчанка абяцаў працаваць на адраджэнне. А цяпер у ім прачынаецца былы сакратар мінскага гаркома. Хаця, урэшце, няхай сабе едзе.

**А. В., проста гараджанін:** Ён сам сябе адпусціў ад нас, бо зрабіў свой выбар не сёння і не ўчора.

**Ул. К., прадпрымальнік:** Мне ўсё адно, хаця я за яго і галасаваў у восьмай школе.

**Алесь ЦАДКО, рабочы, намеснік старшыні мясцовай арганізацыі БНФ:** Не адпусцім. Як адпусціць, калі ён не выканаў свае абяцанкі. Абяцаў пабудаваць Дом культуры? Абяцаў! Абяцаў ажывіць жыллёвае будаўніцтва? Паабяцаў заваліць "Спадарожнік" заказамі з Расіі па "антыНАТАўскай праграме"?

**П. М.:** Не. Бо шмат абяцаў, калі быў у апазіцыі. А калі прапанавалі цёплае месцечка... Я ж працаваў з ім у выбарчым штабе. Пасля выбараў той нават дзякуй не сказаў. А калі яму трэба было, то дабраўся да мяне ў вёску, куды я паехаў да бацькоў. Ведаеш, як мне сказалі: па цябе Краўчанка прыехаў, у мяне рукі затрэсліся. Былы міністр замежных спраў!

**А. К., пенсіянер, член ПКБ:** Я б на месцы прэзідэнта ўвогуле не пасылаў. Пастаянна мяняе погляды. У свой час мне член БНФ, якая галасавала за Краўчанку аргументавала свой учынак тым, што ён хаця і быў некалі ў КПСС, але камуністам не быў. Вам зразумела, што ён сапраўды мае другое аблічча?

**Алег Гулецкі, прыхільнік хакея:** проста ён едзе ў Нагана на Зімовую алімпіяду. Вось і ўсё.

***Пытанні задаваў і запісваў Аляксандр МАНЦЭВІЧ.***

**P. S.** Усе ініцыялы-- расшыфроўваюцца і нам яны вядомыя.



## Навіны

### БПСМ спатрэбілася дапамога

*МАЛАДЗЕЧНА. Дзяржаўныя прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы атрымалі просьбы гарвыканкомаўскага аддзела па справах моладзі.*

"З мэтай далейшага развіцця маладзёжнага руху, выхавання ў духу патрыятызму, рашэння праблемаў сацыяльнай і праваой абароны маладых людзей" прапануецца аказаць дапамогу камітэтам БПСМ у арганізацыі сходаў работнікаў ва ўзросце да 31 года. На мэце - стварэнне пярвічных арганізацый "маладых патрыётаў".

*Аддзел інфармацыі.*

### Шлях да грошай

*ВІЛЕЙКА. Тут у другі раз выставілі на аўкцыён платную стаянку па вул. Шубіна. На мінулым тыдні не было заявак на ўдзел. Першапачатковая цана стаянкі - 410 мільёнаў.*

На продаж выстаўляюцца будынкі камунальнай уласнасці, якія неэфектыўна выкарыстоўваюцца. Апошнім часам прадалі магазін у Макаўі, сталярку і кузню па Савецкай. Недабудаваны універмаг на Вадап'янава абмянялі на падмуркі, што належалі філіялу Беларусбанка. А затым іх прадалі за 1452 мільёны.

*Аддзел інфармацыі.*

### Сустрэча з чытачом

*МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу ва ўлікова-планавым тэхнікуме прайшла сустрэча журналістаў недзяржаўных выданняў са сваімі чытачамі.*

На сустрэчу прыехалі газетчыкі з "Народнай волі", газеты "Імя", нядаўна закрытай "Свабоды" і радыё "Свабода". Недзяржаўныя СМІ рэгіёна прадстаўляла "Рэгіянальная газета". У зале сабралося больш за сотню гараджанаў. Было б няправільным сказаць, што чытачоў не цікавілі публікацыі газет, або тое, як на старонках выданняў або ў эфіры з'яўляюцца тыя ці іншыя тэмы. Але большасць пытанняў так ці інакш тычылася прэзідэнта, сітуацыі вакол незалежных сродкаў масавай інфармацыі, у прыватнасці ў сувязі з закрыццём "Свабоды".

*Мікола ГАЙДУК.*

### Радыё – на свой хлеб

*МІНСК. У аблвыканкоме адбылася нарада рэдактараў мясцовага радыё і загадчыкаў аддзелаў радыёінфармацыі райгазет.*

Абмяркоўвалася пытанне аб выдзяленні мясцовага радыё са структуры рэдакцый раённых газет.

*Аддзел інфармацыі.*

### Беспрацэнтная птушка

*ВАЛОЖЫН. Абласная служба занятасці дала беспрацэнтныя крэдыты ў памеры 1,5 млрд. рублёў на стварэнне новых рабочых месцаў калгасу "Ракаўскі" і Івянецкаму племптушказаводу.*

Завод на гэтыя грошы закупіў маладняк птушкі і ўладкаваў на работу 20 чалавек.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*



## Базарны дзень

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду на рынку набыць прадукты харчавання можна было па наступных цэнах (у рублях у параўнанні з цэнамі мінулай серады):

| **Прадукт** | **3.12.97** | **10.12.97** |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 62 тыс. | **62 тыс.** |
| Сасіскі, 1 кг | 74 тыс. | **74 тыс.** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 36 тыс. | **36 тыс.** |
| Селядзец салёны, 1 кг | 38,5 тыс. | **38,5 тыс.** |
| Рыс, 1 кг | 21 тыс. | **20 тыс.** |
| Цукар, 1 кг | 20,8 тыс. | **20,5 тыс.** |
| Грэчка, 1 кг | 24,5тыс. | **26 тыс.** |
| Алей, бутэлька 1 л | 47тыс. | **48 тыс.** |
| Яйкі курыныя 1 дзес. | 26,5 тыс. | **26,5 тыс.** |
| Маянэз, 250 г | 10 тыс. | **10 тыс.** |
| Кава распушч. "Пеле", 100 г. | 48 тыс. | **48 тыс.** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 19 тыс. | **19 тыс.** |
| **Сялянскія прадукты:** | | |
| Смятана 1 л | 25тыс. | **30 тыс.** |
| Масла 1 кг | 84 тыс. | **84 тыс.** |
| Тварог 1 кг | 30 тыс. | **30 тыс.** |
| Малако 1 л | 8 тыс. | **8 тыс.** |
| Бульба вядро | 55 тыс. | **55 тыс.** |

**Каментарый.** Прымаемыя ўладай меры па павелічэнні прапановы прадуктаў харчавання ў перадсвяточныя дні і часовая ўстойлівасць курсу нашага рубля аказваюць на рынак станоўчы ўплыў: цэны на большасць прадуктаў за тыдзень не змяніліся, а цукар нават крыху патанней. Можна меркаваць, што цэны застануцца на сваім узроўні і да канца года. Але і спекулянты ўжываннем супернацэнак паспрабуюць нажыцца на ажыятажы (за апошнія тыдні гандаль дае амаль квартальны абарот продажу прадуктаў).

*Аддзел інфармацыі.*



## ВІНШУЕМ З НАРАДЖЭННЕМ!

У рэгіёне прыбавілася новых грамадзянаў:

**Мядзельскі раён.** Крывіцкі п/с: 23. 10 Надзея Лятко. Нарацкі п/с: 27. 10 Ігар Кісель. Нарацкі с/с: 23. 10 Алена Лапцік. Будслаўскі с/с: 27. 10 Ігар Камінскі. 09. 11 Мікалай Васілевіч. Занарацкі с/с: 04. 11 Алеся Кажура. 18. 11 Ігар Норка. Сваткаўскі с/с: 29. 10 Аляксей Фарына, 07. 10 Сяргей Кобун. Сырмежскі с/с: 05. 10 Дыяна Максімава.

**Ашмяны.** 15. 11 Ніка Лазарчык, 08. 11 Арцём Міцул, 03. 11 Вікторыя Валадковіч.

**Валожынскі раён.** Івянецкі гп/с: 04. 10 Надзея Падакова, 01. 11 Варвара Парыза, 11. 10 Наталля Адамовіч, 28. 10 Аляксандра Шыманская. Багданаўскі с/с: 02. 11 Яўген Бурак. Вішнеўскі с/с: 06. 10 Аляксей Амельяновіч. Валожынскі с/с: 03. 11 Юрый Ланько. Гародзькаўскі с/с: 11. 10 Мікалай Лукашэвіч, 30. 10 Кацярына Шумская, 28. 10 Кацярына Кулік. Забрэжскі с/с: 07. 10 Вераніка Нячаева. Залескі с/с: 04. 11 Аляксандр Шніп. Пяршайскі с/с: 28. 10 Анастасія Шапавал. Падбярэзскі с/с: 05. 11 Дзмітрый Патрэпка. Пральніцкі с/с: 20. 10 Максім Дубатоўка. Ракаўскі с/с: 14. 11 Дар'я Канапацкая. Яршэвіцкі с/с: 06. 11 Іван Ліхтаровіч. (36)

**Смаргонскі раён.** Вішнеўскі с/с: 27. 09 Анжаліка Дыро, 15. 10 Максім Кротаў, 22. 10 Валерыя Шорац, 15. 10 Іна Баравая. Залескі с/с: 26. 10 Дар'я Івашка. Жодзішкаўскі с/с: 11. 11 Алеся Ляшчук. Каранеўскі с/с: 02. 10 Назар Калыхан. Кушлянскі с/с: 03. 11 Юлія Цыбоўская, 19. 11 Аляксандр Сташкевіч. Лылойцінскі с/с: 26. 10 Павел Корзун. Сінькоўскі с/с: 26. 10 Сяргей Малашка, 15. 11 Марыя Роўная. Сольскі с/с: 14. 10 Крысціна Шляхтовіч, 10. 11 Дар'я Зімніцкая.

**Шаноўныя бацькі!**
**Калі вы хочаце нараджэнне вашага дзіцяці адзначыць здымкам у "Рэгіянальнай газеце" - тэлефануйце 53841, 69667, дасылайце здымкі - мы змесцім іх БЯСПЛАТНА.**

## ВІНШУЕМ СА ШЛЮБАМ!

За **лістапад** шлюб узялі наступныя пары:

**Мядзельскі раён.** Нарацкі п/с: Юрый Гірын і Марына Хільман, Сяргей Кісель і Алена Ягоўдзік, Андрэй Тарасенка і Святлана Янцэвіч. Будслаўскі с/с: Аляксандр Талайка і Святлана Лазарэвіч. Занарацкі с/с: Аляксандр Нор і Таццяна Рохман. Дзягільскі с/с: Валерый Янцэвіч і Таццяна Жыжа. Княгінінскі с/с: Алег Андрушойць і Святлана Адамовіч, Вадзім Арлянковіч і Валянціна Гардзей. Нарацкі с/с: Станіслаў Койра і Ларыса Навасельцава, Яўген Бублей і Вольга Баканава. Сваткаўскі с/с: Сяргей Донін і Ірына Шастаковіч. Стараагапскі с/с: Андрэй Блізнюк і Святлана Шаблыка, Дзмітрый Міронаў і Іна Грузд.

**Смаргонскі раён.** Вішнеўскі с/с: Яўген Дыро і Наталля Ляпеха, Іосіф Цыкота і Марына Аніська. Вайстомскі с/с: Віталь Аўгусціновіч і Алена Садоўская. Залескі с/с: Юрый Страшынскі і Вольга Маскоўкіна. Жодзішкаўскі с/с: Аляксандр Трайковіч і Таццяна Наўроцкая, Анатоль Копач і Ала Хайрыева, Уладзімір Працута і Аксана Шульга. Крэўскі с/с: Пётр Шатраўскі і Ала Грынкевіч, Віктар Войтка і Ірына Янкоўская. Кушлянскі с/с: Генадзь Мажэйка і Таццяна Жабінская, Андрэй Фамянок і Алена Шоць, Андрэй Сурвіла і Наталля Карвецкая. Ардашынскі с/с: Юрый Макей і Лілія Васілеўская. Сінькоўская с/с: Барыс Кажановіч і Ларыса Шчасная, Міхаіл Ціхановіч і Наталля Шунько.

**Валожынскі раён.** Івянецкі гп/с: Станіслаў Залатар і Аксана Лужынская, Юрый Нагорскі і Вольга Міранович, Аляксандр Загароўскі і Вольга Лямбовіч, Дзмітрый Сакалоўскі і Святлана Лабун. Багданаўскі с/с: Алег Садоўскі і Ганна Машко. Вішнеўскі с/с: Дзмітрый Радзюк і Таццяна Таўгень. Валожынскі с/с: Эрык Алешка і Алена Вайцяховіч. Гародзькаўскі с/с: Алег Лявіцкі і Алена Космач. Пяршайскі с/с: Аляксандр Пратасевіч і Наталля Лобач. Падбярэзскі с/с: Юрый Князеў і Галіна Давідзёнак. Пральніцкі с/с: Андрэй Яновіч і Наталля Зуй. Ракаўскі с/с: Віталь Гамаліцкі і Алена Русовіч, Міхаіл Вялічка і Алена Сетун. Сугваздаўскі с/с: Яраслаў Скуратовіч і Людміла Жаўнерчык.



## Культ-ура!

**ВАЛОЖЫН.** "Ад усяго сэрца" - 3 снежня ў РДК адбылася сустрэча інвалідаў горада і раёна. У гэты ж дзень быў наладжаны бясплатны абед у гарадской сталовай, а ў кінатэатры "Юнацтва" інваліды мелі магчымасць бясплатнага прагляду кінафільма.

2 снежня Івянецкі сельскі ДК выступіў з канцэртам мастацкай самадзейнасці ў дзіцячым доме інвалідаў.

Цудоўную магчымасць сустрэчы з паэтамі-землякамі **Віктарам Шніпам і Соф'яй Русецкай** атрымаюць заўтра жыхары горада на вечарыне "Песняры зямлі беларускай", якую рыхтуюць работнікі РДК.

Да святкавання каталіцкіх калядаў ва ўсіх клубных установах раёна пройдуць гульнёва-забаўляльныя праграмы, аб'яднаныя назвай "Калядныя пацехі".

**МЯДЗЕЛ.** Два тыдні ў клубных установах раёна праходзілі мерапрыемствы, прысвечаныя Дню работнікаў сельскай гаспадаркі.

Знаёмства з новымі калектывамі мастацкай самадзейнасці, сустрэчы з ужо знаёмымі, адкрыццё новых імёнаў - такая мэта ставіцца работнікамі клубных устаноў пры наладжванні выязных абменных канцэртаў, якія праходзяць у раёне.

"Пасвячэнне ў студэнты" у свірскім СПТВ-207 правёў 3 снежня Камароўскі сельскі ДК.

17 снежня возьме старт раённы агляд мастацкай самадзейнасці, наладжаны сумесна з навучальнымі ўстановамі. Ён завершыцца заключным канцэртам усіх пераможцаў.

"Восеньскі каляндар" - тэатральныя заняткі, прысвечаныя каляндарным абрадавым святам восені, правёў для дзяцей пачатковых класаў цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў.

**МАЛАДЗЕЧНА.** На гастролях у Лідзе быў тэатр лялек "Батлейка"Тамтэйшым малым паказалі спектакль **Алега Жугжды** "Казкі з куфэрка" паводле казак Віленскага павета. Ролі выконвалі **Ірына Камышава і Барыс Трусій.**

Спектаклем па матывах п'есы "Ай ды мышык" у ДК чыгуначнікаў дзіцячы тэатр лялек пацвердзіў званне ўзорнага.

Канцэрт фартэпіяннай музыкі прайшоў у музвучылішчы. Выканаўца - лаўрэат міжнароднага конкурсу заслужаны артыст РБ **Ігар Алоўнікаў.**

Як звычайна вялікую колькасць гледачоў і канкурсантаў (дзяцей ва ўзросце ад 6-ці гадоў, настаўнікаў) збірае традыцыйны перадднавагодні конкурс "Зорны капеж", І тур якога пройдзе заўтра, ІІ - 20-га. Канкурсанты спрабуюць сябе ў песенным і танцавальным жанрах.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

## Факт і каментарый

### І ў Жэневе пра Астравец пачулі

***ЖЭНЕВА. Тут прайшоў Міжнародны кангрэс па радыёсувязі. Аматараў слухаць радыё на кароткіх хвалях закранае рашэнне аб пераходзе да 2004-га года на аднапалоснае вяшчанне. Гэта практычна азначае, што ўсім прыйдзецца мяняць радыёпрыёмнікі.***

Беларусі, як беднай краіне, гэты тэрмін падоўжаны да 2007-га года. Нечакана для многіх узнікла пытанне аб перашкаджальным дзеянні тэлевізійных перадатчыкаў Астраўца (11 канал), і Стрэльчыкаў (12 канал) на тэрыторыі Літвы. Пасля разгляду скаргі літоўскага боку вынесена рашэнне аб дадатковых вымярэннях і паўторным "слуханні справы".

*Аддзел інфармацыі.*

### Аднак да Літвы Астравец не дойдзе

***РАДАШКОВІЧЫ. Размяшчэнне ТВ-перадатчыкаў планавалася з мэтай ахопу тэрыторыі ўсяго СССР. Перадатчык у Стрэльчыках мае праектную зону ўпэўненага прыёму радыусам у 15 км і прыкрывае прыкладна 2-3 кв. км літоўскай тэрыторыі. Раней пытанне аб перашкодах не ставілася.***

Мы толькі што правялі замену перадатчыка РЦТА, які адпрацаваў 15 гадоў, на новы, сучасны. Гэта каштавала вялікіх грошай. Дзяржаўная інспекцыя электрасувязі РБ правядзе вымярэнні напружанасці поля па мяжы і прадаставіць дадзеныя ў Жэневу. На падставе гэтага будзе прымацца рашэнне.

Магчымыя некалькі варыянтаў: змяншэнне магутнасці перадатчыка, рэканструкцыя антэны, іншае. Што тычыцца астравецкага перадатчыка, то ён абслугоўваецца не намі. Але заз-начу, што яго магутнасць у дзесяць разоў меншая за стрэльчыкаўскі і да літоўскай тэрыторыі ён наўрад ці дасягае.

*Мікола ЛІННІК,*
*вядучы інжынер ДП "Міжгародняя сувязь".*

## Новыя тэхналогіі

# Мы вернем заказчыку грошы...

Пачатак на 1-й стар.

- Калі гаварыць каротка, не для спецыялістаў, то адзін з асноўных нашых заняткаў - халодная зварка. Пра яе пісала і "Рэгіянальная газета", але гаворка ў вас ішла пра бытавыя работы, а ў нас справа пастаўленая на прамысловую аснову, прычым з выкарыстаннем навейшых тэхналогій і "know-how".

**- Для газетнага інтэрв'ю тэма, відаць, не вельмі прыдатная, яна, хутчэй, вымагае гутаркі са спецыялістамі, але тое, што вы робіце, уражвае, таму пастарайцеся даходліва расказаць чытачам хаця б асноўнае.**

- Наш рамонт выконваецца ў большасці выпадкаў на месцы, без разбірання абсталявання. Новы метад, калі выкарыстоўваюцца мульці-металы, паспыталі на сабе шмат прадпрыемстваў - да прыкладу, водаправодная гаспадарка Санкт-Пецярбурга, завод шампанскіх вінаў у Мінску, навапалацкі НПЗ...

**- Гэта прадпрыемствы зусім рознага профілю.**

- А гэта наш "стыль" - працуем на любых прадуктаправодах (няма розніцы ці кіслата там, ці малако), маем справу з металам і керамікай, эластычнымі паверхнямі, работы праводзім на вільготных паверхнях, масленых.

**У Рызе прарвала гарадскі водаправод. Рамонтнікі запрасілі 5 дзён і вялікую плату. Прадстаўнікам кампаніі "FRAM" спатрэбілася 4 гадзіны і ўдвая менш грошай.**

**- Давялося чуць, што вы рамантуеце станкі і трактары з камбайнамі, марскія судны, канвейеры і гарадскія водаправоды, іншае. Ці не занадта шырокі спектр!**

- Рэкламацый, па крайняй меры, не было. А рамантуем тое, што просяць. Часта гэта размарожаныя рухавікі, станкі з выпрацаванымі паверхнямі, устройствы, дзе трэба злучыць метал і шкло альбо, да прыкладу, чыгун і бронзу. Або вентыльныя засаўкі - каштуюць яны дорага, а рамонт абыдзецца ў 30-40% ад новай. Пасля рамонту характарыстыкі "латкі" не саступаюць першапачатковым, не патрабуецца дадатковая апрацоўка. Гарантыі - да 10 год, а па некаторых паказчыках (станіна станка ці яшчэ што) - на тэрмін выкарыстання. Робім антыкаразійную апрацоўку.

**- У вас пастаянныя кліенты ў Чэхіі, Венгрыі, Латвіі, Расіі. Разлікі, адпаведна, і ў Беларусі будуць у "зялёных"!**

- Наадварот, у беларускіх рублях і безнаяўныя. Першаму кліенту з рэгіёна гатовыя выканаць работы бясплатна.

**- Поспехаў вам. І найлепшыя пажаданні гэтаму першаму кліенту.**

*Запісаў*
*Сямён ДАЎГАЛЁЎ.*

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 12 - 18 снежня 1997 года

Маладзёжная РЭГІЯНАЛЬНАЯ газета




Адгаданка

# Хто ўсміхаецца апошнім

**ПРЫЗ АТРЫМАЕ МАРЫЯ МЯЛЕШКА З МЯДЗЕЛА**



Конкурс завяршыўся. Марыя набрала 36 ачкоў і перамагла. Мы добра пазнаёміліся з ёю за год, і нават аднойчы пераканалі паспытаць сябе ў якасці карэспандэнта (*маладзёжны ўкладыш №5*).

Чакаем да нас у госці і за прызам - кніжкай з песнямі і акордамі гурта "Камелот", а таксама касетай з іх альбомам "Краіна талераў".

Апошнімі нам усміхаліся дыснееўскі персанаж **Гуфі**, касманаўт **Юрый Гагарын** і **Чэшырскі Кот** з казак Льюіса Кэрала. Англійскага ката многія зблыталі з Матроскіным з Праставкашына. Хаця, як здавалася б, "Алісу ў краіне цудаў" вы ведаеце не горш за папулярны мультфільм.

**Дзядзька ГО.**

# "Вы хто - псіх?.."

**МАЛАДЗЕЧНА. Сацыяльна-псіхалагічны цэнтр працуе чатыры гады. Сярод 8 спецыялістаў ёсць некалькі псіхолагаў - дзіцячы, сямейнага кансультавання. Працуе тэлефон даверу для падлеткаў.**

- Звычайна псіхолаг успрымаецца, як псіхіятр ці псіхатэрапеўт, чалавек з медыцынскай адукацыяй, што працуе з хворымі, - **гаворыць дырэктар цэнтра Ганна ЧАЙКОЎСКАЯ**, - псіхолаг жа кантактуе толькі са здаровымі. Ён не дае гатовых рэцэптаў, а проста дапамагае знайсці прычыну "няўдач".

**- Мяне найбольш цікавіць служба для падлеткаў.**

- Улічваючы здольнасці падлеткаў, дапамагаем ім выбраць спецыяльнасць. Мы запрашаем да сябе тых, каму споўнілася 14. Камп'ютэрныя праграмы ўводзяцца менавіта з гэтага ўзросту. Для 9-класнікаў праводзіцца папярэдняя кансультацыя. Наступная - праз год-два. На кожнага наведвальніка ідзе больш за гадзіну. Таму псіхолаг-кансультант прымае не болей за 4 чалавекі ў дзень. Акрамя дыягностыкі прапануем даведачную інфармацыю па ўсіх рэспубліканскіх навучальных установах (вучылішчах, тэхнікумах, ВНУ). Нават можам адказаць, які сёлета быў конкурс на факультэт журналістыкі БДУ.

**- Якія пытанні хвалююць падлеткаў?**

- У асноўным, па зносінах з супрацьлеглым полам: як пазнаёміцца, выдзеліцца ў кампаніі. Бывае, - дзе лячыцца ад венерычнага захворвання.

**- За 4 гады падлеткі змяніліся?**

- Сталі больш адукаванымі. Тое, што яны заходзяць да нас, тэлефануюць, не камплексуюць выносіць свае праблемы,- таму пацвярджэнне.

**- Для нашага ўзросту найбольш тыповая праблема?**

-Бацькоў і дзяцей.



**Таццяна МІР, СШ №9.**



"Супакойцеся. Тэст выявіў, што вам больш падыходзіць работа выхавальніка."

Жартачкі

## Гуляем за свае

**Маладзечна, палітэхнікум.** Адной са студэнтак знялі стыпендыю за прагулы. Яна адсутнічала 50 гадзін заняткаў без уважлівых прычын.

## Спосаб расслабіцца

**Маладзечна, СШ №9.** Вучань пачатковых класаў амаль штодня купляе сабе, з яго слоў, "цукерку для храбрасці". Налізаўшыся такім чынам "адвагі", хлопец ідзе ў школу, але не адразу заходзіць у клас. Доўгі час бегае вакол будынка, паказвае ўсім язык, крыўляецца. Цікава тое, што, зайшоўшы ў клас, ён становіцца пай-хлопчыкам. Сядзіць цішэй за мыш і вучыцца на пяцёркі і чацвёркі.

## Дастаў

**Маладзечна, ПТВ №21.** Навучэнец пайшоў да дошкі адказваць, паклаўшы на чарвік шпаргалку. Калі ён прачытаў увесь змест, выкладчык забраў "шпору" і папрасіў яшчэ раз адказаць на тое самае пытанне. Хлопец не разгубіўся. Дастаў другую "шпору", якая пазней таксама была канфіскаваная. Выкладчык задаў пытанне ў трэці раз. Уявіце сабе яго твар, калі студэнт выцягнуў трэцюю шпаргалку, паклаў яе на стол і без дазволу сеў на сваё месца.

**Таццяна МІР.**

Наша куханька

## Язык-балбатун

Спачатку трэба абысці школы, каб знайсці балбатуна з доўгім языком. Можна прыхапіць з сабою лінейку - вымяраць даўжыню языкоў кандыдатаў на ганаровае званне. У кішэні павінен знаходзіцца калабок са звычайнага цеста. Калі балбатун знойдзены, папрасіце яго паказаць язык. І як толькі ён высуне, калабком націсніце па ўсёй даўжыні языка. Атрыманую форму спяшайцеся пасадзіць у печ.



Напрыканцы язык-балбатун можна прысыпаць цукрам альбо перцам. Па густу.

**Віця КОК.**

Скаўты

## Кобра і коні

***СМАРГОНЬ. Метадыст Дома творчасці юных Наталля Шасцеракова стварыла ў горадзе скаўцкую арганізацыю.***

Цяпер у ёй 4 скаўты і 12 кадэтаў. Арганізацыя складаецца з патрулёў, якім даюць арыгінальныя назвы - "Коні", "Кобра". Паколькі гэта рэлігійная арганізацыя, то абавязкова трэба ведаць сваю рэлігію. Прычым прымаюцца сюды дзеці ўсіх веравызнанняў. І будысты, і хрысціяне ў нас знойдуць агульную мову.

**Яўген ЛЯВОНЦЬЕЎ.**

**УДАКЛАДНЕННЕ.** У мінулай "маладзёжцы" дапушчана недакладнасць (мусіць, па віне нейкага газетнага барабашкі): аўтарам загадкі пра каўбоя з'яўляецца **Павел РУСАКОВІЧ**. Просім прабачэння, Павел, спадзяемся надалей - без крыўды.

У падрыхтоўцы нумара ўзяла ўдзел грамадская арганізацыя **"САНАТА - Таленавітыя дзеці"**.

# Агеньчыку быць!

***МАЛАДЗЕЧНА.* Маладзёжны цэнтр "Плір" рыхтуе навагодні агеньчык для дзяцей з асаблівасцямі псіхічна-фізічнага развіцця.**

Па Вялікім Гасцінцы, 127 працуе дыягнастычна-рэабілітацыйны цэнтр менавіта для гэтай катэгорыі дзяцей (а іх каля 70), кіруе якім **Віктар Астроўскі**. Разам з ім працуюць кваліфікаваныя педагогі, урачы, псіхолагі.

Ранішнік плануецца правесці 24 снежня. Там будуць казачныя інсцэніроўкі, спевы, гульні. Да рэпетыцый прыцягнуты увесь склад "Пліра" на чале з **Валянцінай Шакавец** і старшакласнікамі СШ №2. Матэрыяльна мерапрыемства падтрымалі фірмы "Тройка" і "Анграм". У мэтах ранішніка даставіць прыемнае дзецям і наладзіць кантакты з іншымі маладзёжнымі арганізацыямі.



**Кацярына КАЗІНЕЦ.**

Поўныя кішэні музыкі

# Айцец, сын і дух святы. Тройца

***Упершыню пачуў гэты гурт у мінскім клубе "Салют" (цяпер адышоўшым у легенду). Тры чалавекі "шаманілі" з нейкімі прыстасаваннямі і гітарай, лілася цудоўная музыка. Прывычны да навамодных гукаў люд прыціх і ўражана слухаў. Пасля выступлення таксама ўпершыню на "Салюце" гучалі апладысменты выканаўцам.***


АЙЦЕЦ

Як і сапраўдная тройца, гурт "Тройца" адзін у трох выявах. Айцец - **Іван Кірчук**, сын - **Зміцер Лук'янчык**, дух - **Віталь Шклёнак**. Заснавальнікам гурта, вядома, лічыцца "айцец":

— Мне заўсёды падабаліся народныя спевы, таму з вялікай ахвотай я ездзіў у фальклорныя экспедыцыі. Часцяком на Палессе. Кожны новы запіс уражваў, я насіўся з ім, як з адкрыццём. Аднойчы завітаў у Акадэмію Навук Беларусі, дзе мне паказалі фонды - сапраўдны, "не кранутыя цывілізацыяй" скарб. Узнікла ідэя стварыць гурт, першая рэпетыцыя якога адбылася ў студзені 1996 года.


ДУХ СВЯТЫ

**— Ці цяжка аранжыраваць народны спеў?**

— Цяпер мы адарваныя ад каранёў, большасць бедаў менавіта ад гэтага. Музыка вяртае нас да спрадвечнага. У старажытных песнях ёсць усё - і блюз, і рок-н-рол, і джаз. Трэба гэта толькі пачуць. А потым падаць.

**— Бабулек нялёгка ўгаварваць спяваць?**

— Калі выклікаеш давер, табе абавязкова спяюць.

Быў такі выпадак. Вызнаўшы, што мне патрэбна, бабуля папрасіла прабачэння і знікла


СЫН

Заканчэнне на 6-й ст.

Крызіс малодшага ўзросту

# Вырастай-ка!

***СМАРГОНЬ. Я вучуся ў восьмым класе. На жаль, у другую змену. Але справа не ў тым, што мне гэта няручна, а зусім у іншым.***

Яшчэ ў кастрычніку прайшоў восеньскі баль для 6-8 класаў. І за ўсю чвэрць гэта была адзіная дыскатэка для 8-х класаў. Я не магу зразумець аднаго, няўжо мы так адрозніваемся ад дзевятых, для якіх дыскатэкі рабілі ужо не адзін раз. А ў горад, у "Аўтапілот", таксама асабліва не наездзішся, таму што вяртацца пасля 12 гадзінаў пешшу праз поле вялікага жадання няма.

На нашай дыскатэцы нам жа кажуць: "Выганяйце старэйшых самі". Уявіце сабе сітуацыю: падыходзіць васьмікласнік да дзядзькі з 11-га і гаворыць, што яму трэба пакінуць дыскатэку.

Вось і атрымліваецца, што чакаць нам прыйдзецца яшчэ аж цэлы год.

**Насця РУДНІКАВА.**

